№17 (180)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Лістапад 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**У прадукцыі Магілёўскага мясакамбіната знайшлі геном АЧС.**

Пра гэта гаворыцца ў матэрыялах па выніках даследавання пробаў прадукцыі.

Геном афрыканскай чумы свіней выяўлены ў палове пададзеных на аналіз пробаў, перадае interfax.by.

Раней геном АЧС быў выяўлены ў прадукцыі Аршанскага мясакансервавага камбіната. Пасля гэтага Расельгаснагляд увёў ўзмоцнены маніторынг свініны і прадукцыі свінагадоўлі, якія паступаюць з Беларусі, і геном АЧС быў выяўлены таксама ў прадукцыі Мінскага і Бабруйскага мясакамбінатаў.

Асаблівую трывогу новы выпадак выклікае ў сувязі з тым, што АЧС, па афіцыйных звестках беларускага боку, не рэгістравалася ў Магілёўскай вобласці. Газета "Паходня" паведамляла пра тое, што на сам рэч на АЧС свінні ў вобласці хварэлі.

### У Прыдняпроўі

**У Магілёўскай вобласці нідзе не працуючых грамадзян возьмуць на асаблівы кантроль.**

Пра гэта заявіў старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік.

Ён даручыў адпаведным службам правесці на працягу лістапада маніторынг сітуацыі ў раёнах і гарадах вобласці на прадмет выяўлення «дармаедаў» і пастаноўкі іх на асаблівы кантроль.

### У раёне

**У Бялыніцкім раёне мужчына напаў з сякерай на "хуткую".**

Пасля гэтага інцыдэнту ён уцёк у лес.

27 кастрычніка хуткую дапамогу выклікалі сваякі хулігана. Машына стаяла каля іх дома, калі на яе з сякерай накінуўся 40-гадовы жыхар вёскі Карытніца. Пасля нападу ў аўтамабіля "Газэль" была разбітая бакавая шыба ў дзверцы, а таксама пашкоджаная задняя бакавая стойка.

# А ШТО КАЗАЦЬ ПРА ГОРШЫХ…

***Вынікі працы АПК Бялыніцкага раёна за 9 месяцаў бягучага года прызнаны лепшымі ў Магілёўскай вобласці, паведаміў інтэрнэт-сайт mogilevnews.by.***



На калегіі камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Магілёўскага аблвыканкама, якая прайшла напрыканцы кастрычніка, было агучана, што Бялыніцкі раён забяспечыў прырост валавай прадукцыі ў сельскагаспадарчых арганізацыях на 6,6% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў вартасным выразе ў супастаўных коштах. Гэта на 0,6% перавысіла паказчык, устаноўлены заданнем.

Другое месца па выніках дзейнасці за тры кварталы 2014-га года заняў АПК Дрыбінскага, трэцяе – Горацкага раёнаў.

Інтэрнэт-сайт mogilevnews.by таксама паведаміў, што за высокія паказчыкі ў працы Бялыніцкі раён узнагароджаны пераходзячым кубкам камітэта па сельскай гаспадарцы і харчавання Магілёўскага аблвыканкама.

Што ж, нельга не парадавацца за працаўнікоў вёскі нашага роднага Бялыніцкага раёна, якія дасягнулі нечуваных поспехаў у працы, апярэдзіўшы іншыя раёны Магілёўскай вобласці. Праўда, у мяне асабіста, як у чалавека, які крышачку ў сельскай гаспадарцы разбіраецца, міжволі ўзнікаюць пэўныя пытанні. Дарэчы, не толькі ў мяне. Днямі размаўляў з адным знаёмым чыноўнікам з Бялыніцкага райвыканкама, які таксама задаў рытарычнае пытанне: "Што ж тады ў іншых творыцца, калі мы ў вобласці лепшыя"?

Пытанне на сам рэч вельмі добрае, таму што гэты чалавек валодае інфармацыю пра тое, што сапраўды адбываецца ў сельскагаспадарчай галіне Бялыніцкага раёна.

У пэўнай ступені валодаюць такой інфармацыяй і журналісты "Паходні", таму і я міжволі задумваюся, што ж творыцца ў іншых раёнах Магілёўскай вобласці, калі Бялыніцкі раён лепшы. Бо на сам рэч нейкімі сапраўднымі поспехамі і дасягненнямі ў нашым раёне можа пахваліцца хіба што толькі СВК "Калгас "Радзіма", толькі ў гэтай гаспадарцы ёсць добрыя вынікі ў працы за ўласны кошт. Таму людзі ў "Радзіме" могуць з упэўненасцю глядзець у будучыню і ім сапраўды ёсць чым ганарыцца.

Што ж датычыцца іншага флагмана сельскагаспадарчай вытворчасці Бялыніцкага раёна – ААТ "Новая

*(Працяг на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АДМІНІСТРАЦЫЯ ПРЭЗІДЭНТА ВЫБАЧЫЛАСЯ ПЕРАД РЫГОРАМ КАСТУСЁВЫМ

***Намеснік старшыні Партыі БНФ, кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі магістрат” Рыгор Кастусёў 29 кастрычніка атрымаў паўторна ўведамленне з адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.***



***Рыгор Кастусёў***

Начальнік упраўлення па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб С. І. Буко на гэты раз ужо на беларускай мове паведаміў Рыгору Кастусёву, што яго зварот, паступіўшы ў адміністрацыю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, перанакіраваны ў Магілёўскі аблвыканкам з даручэннем паведаміць аб выніках разгляду.

Таксама начальнік упраўлення прынёс свае выбачэнні за паведамленне, дасланае раней з адміністрацыі прэзідэнта на рускай мове.

Нагадаем, што раней адміністрацыя кіраўніка краіны ў парушэнне беларускага заканадаўства адказала на беларускамоўны зварот Рыгора Кастусёва на рускай мове.

Рыгор Кастусёў таксама паведаміў нашаму карэспандэнту, што 29 кастрычніка да яго ў кватэру ў Шклове завітаў супрацоўнік упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС РБ. Па словахграмадскага актывіста, супрацоўнік праваахоўных органаў удакладніў некаторыя факты карупцыйных злачынстваў, выкладзеныя ў адкрытым лісце Рыгора Кастусёва да кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі. Рыгор Кастусёў адзначыў, што супрацоўнікам міліцыі быў складзены пратакол апытання, а таксама тое, што гутарка атрымалася канструктыўнай. Кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі магістрат” выказаў спадзяванне, што ўлады ўсё ж займуцца сапраўднай барацьбой з карупцыяй у Шклоўскім раёне, а не яе імітацыяй.

Нагадаем таксама, што звярнуцца да Аляксандра Лукашэнкі Рыгор Кастусёў і яго землякі з грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі магістрат” вырашылі пасля таго, як іх неаднаразовыя ранейшыя звароты і прапановы да кіраўніцтва Шклоўскага райвыканкама не знайшлі ніякага водгука і засталіся без разгляду.

Чальцы “Шклоўскага магістрату” прапанавалі кіраўніку краіны вылучыць на пасаду старшыні Шклоўскага раённага выканаўчага камітэту Пятра Мігурскага, кандыдата эканамічных навук, які стала пражывае ў Шклоўскім раёне. Па іх меркаванню, сучаснае кіраўніцтва Шклоўскага раёна ў вачах людзей ператварылася ў касту недатыкальных з вялікімі асабістымі прыбыткамі і без адказнасці за вынікі сваёй працы.

Кіраўнік “Шклоўскага магістрату” у сваім лісце задаў Аляксандру Лукашэнку рытарычнае пытанне, як магло стацца, што на пасадзе старшыні Шклоўскага раённага Савета дэпутатаў шмат год знаходзіўся чалавек з непагашанай судзімасцю?

Рыгор Кастусёў таксама звяртаў увагу кіраўніка краіны на тое, ўто ўжо больш дзесятка год жыллёва-камунальную сферу раёна калоцяць шэраг карупцыйных скандалаў, звязаных з кіраўнікамі прадпрыемства. Адзін за адным за злоўжыванне службовым становішчам пад следства падпадаюць намеснікі старшыні райвыканкам. Агульны карупцыйны складнік па Шклоўскаму раёну толькі за апошнія 4 гады ў фінансавым плане складае больш 60 мільярдаў рублёў.

У звароце намеснік старшыні Партыі БНФ задаў Аляксандру Лукашэнка канкрэтнае пытанне: “Дык ці не пара ратаваць людзей і раён? І не філасофстваваць пра змаганне з карупцыяй, а па сапраўднаму адсекчы гэтаму цмоку галаву”.

***Барыс Вырвіч***

## А ШТО КАЗАЦЬ ПРА ГОРШЫХ…

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

Друць”, у якога, згодна інфармацыі нашых доблесных статыстыкаў, вельмі добрыя эканамічныя паказчыкі, то тут нават казаць нічога не хочацца, бо пісаў неаднаразова. Гаспадарка цалкам закрэдытаваная і, фактычна, знаходзіцца ў поўнай… Пра сапраўдны стан спраў жывёлагадоўлі “Новай Друці” вам, шаноўныя чытачы, лепш распавядуць працаўнікі гэтай гаспадаркі, ну а пра тое, чым вызначыліся апошнім часам яе кіраўнік, намеснік кіраўніка і былы галоўны інжынер, вам лепш распытаць у супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Зараз спыняцца на гэтым не буду, мы ў “Паходні” абавязкова напішам пра “Новую Друць” крыху пазней.

Гаварыць пра нейкія поспехі ў іншых сельскагаспадарчыя прадпрыемствах нашага раёна таксама не выпадае. Пра што казаць, калі толькі рэалізавалі прадукцыю “небывалага ўраджаю” гэтага года, а ўжо ўзніклі праблемы з выплатай заробку іх працаўнікам. А што будзе далей, калі ўвесь наступны перыяд гаспадаркі будуць жыць толькі за кошт жывёлагадоўлі, вынікі працы ў якой далёка не ўражваюць? Прывяду толькі адну вытрымку з пасяджэння Бялыніцкага райвыканкама ў верасні гэтага года: “У прынятым рашэнні па выніках абмеркавання работы па ўзнаўленні статку за 8 месяцаў 2014 года і гатоўнасці жывёлагадоўчай базы сельскагаспадарчых арганізацый раёна да зімова-стойлавага ўтрымання жывёлы прызнана нездавальняючай праца кіраўнікоў ААТ “Бялынічы”, “Падзевічы”, райаграпрамтэхзабеспячэння, СВК “Лебядзянка” – па атрыманні прыплоду цялят; ААТ “Бялынічы”, “Новая Друць”, СВК “Ількавічы” – па захаванасці матчнага

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# І ХТО Ж У НАС УТРЫМАНЦЫ І ДАРМАЕДЫ???

***20 кастрычніка ў час правядзення нарады па пытаннях занятасці і міграцыі Аляксандр Лукашэнка даручыў кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову і дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Аляксандру Мяжуеву ўнесці прапановы на гэтую тэму і да канца года далажыць аб праведзенай рабоце. Згодна яго даручэння, да 1 студзеня 2015 года павінна быць распрацавана сістэма мераў па выкараненні ўтрыманства і дармаедства.***

«Как мне докладывают, около 500 тысяч наших граждан не задействованы в экономике страны. Пусть 100 тысяч — это домохозяйки и работающие на собственном подворье. А 400 тысяч чем занимаются? За чей счет живут?» — звярнуўся ён да прысутных.

«…Причем эти и другие иждивенцы пользуются всеми благами государства, получая бесплатное образование, медицинское обслуживание, оплачивая услуги ЖКХ по дотируемым государством тарифам. А потом еще приходят к государству и требуют достойную пенсию. Пора прекращать это иждивенчество! 400 тысяч должны быть вовлечены именем революции в работу! Бездельников не должно быть в стране! Надо заставить этих людей работать и прекратить раздавать бесплатно блага тем, кто не работает».




Робячы падобныя заявы Лукашэнка, нарэшце, гэтым самым вымушаны прызнаць аб наяўнасці ў краіне беспрацоўя каля 9%, калі, згодна статыстычных дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на 1 кастрычніка 2014 года ў Беларусі налічвалася ўсяго толькі 21,8 тыс. беспрацоўных, пры наяўнасці на пачатак 2014 года долі насельніцтва працаздольнага ўзросту каля 5,6 млн. чалавек, ці 59,4% ад агульнай колькасці.

Што ж такое страшнае для дзяржавы робяць гэтыя паўмільёна грамадзян, што ім была прысвечана цэлая вялікая нарада на ўзроўні кіраўніка дзяржавы? Пры тым кіраўніцтва краіны гатовае аб'явіць іх амаль што ворагамі народа і “ад імя рэвалюцыі” імкнецца задзейнічаць іх у эканоміку.

У асноўным — гэта грамадзяне, што ў пошуках працы з прыстойным заробкам вымушаны былі з'ехаць за межы краіны, бо родная дзяржава не змагла стварыць і забяспечыць ім умовы для рэалізацыі сваіх здольнасцяў з адпаведнай ацэнкай іх уклада ў грашовым эквіваленце. Працуючы за межамі Беларусі, гэтыя людзі забяспечваюць прыстойны ўзровень жыцця сабе і сваім сем'ям, спрыяюць паступленню ў нашую краіну валюты, удзельнічаюць у папаўненні бюджэту за кошт аплаты падаткаў пры пакупцы разнастайных тавараў і прадуктаў харчавання ўнутры краіны, праз іншыя выплаты.

І гэтых людзей кіраўнік краіны называе ўтрыманцамі і дармаедамі, сцвярджаючы, што яны “на халяву” атрымліваюць разнастайныя “блага” ў выглядзе бясплатнай адукацыі і медыцыны, нізкай аплаты камунальных паслугаў, сацыяльных пенсій.

На колькі ў нас бясплатная адукацыя і медыцына, якая якасць камунальных паслугаў і на колькі яны адпавядаюць сваім коштам, якія памеры пенсій у нашай краіне — гэта тэма для асобнай гаворкі.

Дапусцім, што і сапраўды гэтыя людзі прыносяць толькі фінансавыя страты для нашае краіна і паспрабуем прадставіць памеры гэтых стратаў у параўнанні з іншымі незаконымі расходамі чыноўнікаў, атаясамляючых сябе з дзяржавай.

Пры максімальных расходах нашае дзяржавы для аказання сацыяльных льготаў 500 тысячам “утрыманцаў” і “дармаедаў” у памеры каля 3 тыс. доляраў у год на чалавека, агульная сума расходаў складае 1,5 млрд. доляраў.

У той жа час, напрыклад, толькі пры размеркаванні чыноўнікамі бюджэтных фінансавых сродкаў карупцыйны складнік дасягае ад 2 да 4 млрд. доляраў у год.

Цалкам адхіліўшы грамадзян краіны ад кіравання дзяржрэсурсамі і актывамі, гаспадарамі ўсяго гэтага багацтва на сотні мільярдаў доляраў у нашай краіне дэ-факта сталі нікім не абраныя разнастайныя чыноўнікі, забяспечыўшыя на гэтым для сябе штогадовы патэнцыял карупцыйных здзелак на сумы ад 7 да 10 млрд. доляраў.

Якую б галіну эканомікі не ўзяць, няма такой, дзе б не квітнела карупцыя.

Бессаромна раскрадаюцца і фінансавыя сродкі, што выдзяляюцца з бюджэту краіны на мадэрнізацыю прадпрыемстваў АПК, дрэваперапрацоўкі, іншых галін.

Па сведчаннях шматлікіх міжанародных і беларускіх экспретаў, найбольшы рост карупцыі ў Беларусі распачаўся менавіта пасля жорсткага разгону Плошчы 2010 года. З чарговым “пераабраннем” Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта беларускія чыноўнікі адчулі сваю беспакаранасць і ўседазволенасць.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

***У апошні час барацьба з карупцыяй ў Беларусі разгарнулась аж на два франты: на рэспубліканскім узроўні, дзе бушуюць жарсці не жартоўных памераў, і мясцовым, з рознымі хітрыкамі ў адносінах да зладзюганаў і іншых карупцыянераў, якіх і трэба садзіць, і вельмі шкада, бо свае ж, сукіны дзеці. Але ж і змагацца з карупцыяй трэба, бо Прэзідэнт сказаў, што карупцыйныя працэсы здольны разбурыць любую, самую дасканалую, сістэму – сацыяльную і эканамічную, і з'яўляюцца падставай для нарастання грамадскага пратэсту, чаго гэта ўлада вельмі баіцца на ўсіх узроўнях.***




Трэнд жа карупцыйных злачынстваў у Беларусі, пачынаючы з 1989 г., калі было ўзбуджана толькі 112 спраў па фактах хабарніцтва, мае ўстойлівы характар штогадовага падвышэння. Ды толькі маштабы карупцыі зараз не тыя, нават у параўнанні з 1994 г. (500 спраў), калі да ўлады на хвалі барацьбы якраз з карумпаванасцю ўлады, і прыйшоў А. Лукашэнка. Праз дваццаць гадоў, у 2013 г., беларускія праваахоўнікі выявілі ўжо 1319 фактаў хабарніцтва, ці ў 2,6 разоў болей, чым на зары панавання "вертыкалі". За гэты прамежак часу красці "вертыкальшчыкі" навучылісь не горш за А. І. Карэйку, вядомага персанажа твораў Ільфа і Пятрова ("Залатое цяля"), а можа нават і пераўзышлі яго. Больш таго, чыноўнікі з цягам часу вынаходзяць шляхі прысабечвання дзяржаўных грошай у такіх напрамках, пра якія шараговы беларус ніколі не здагадаецца.

У Магілёве былы кіраўнік аддзела адукацыі гарвыканкама Я. Дуплеўскі пры саўдзеле са службовымі асобамі сярэдняй школы на працягу чатырох гадоў афармляўся па сумяшчальніцтве настаўнікам факультатыўных заняткаў на ўмовах працоўнай дамовы, але фактычна заняткі не праводзіў. Прычыніў гарадскому бюджэту страты на 22 млн. рублёў, што цягне на 7 гадоў турмы.

Некалькі іншыя маштабы крадзяжу ў прадпрымальнікаў. Толькі што завершана справа супраць дырэктара магілёўскага ТАА "Будінвест", які фактычна выкарыстаў мэтавы аванс на будаўніцтва жылога дома ў памеры 1,7 млрд. руб., пералічанага на рахунак яго прадпрыемства КУП "УКБ Шклоўскага райвыканкама, на свае патрэбы.

Былы сенатар-прадпрымальнік, дырэктар магілёўскага ЗАТ "Палітэкс" В. Кастагораў абвінавачваецца ў недаплаце падаткаў на суму аж 150 тыс. долараў ЗША. Больш таго, ім таксама цікавяцца расійскія праваахоўнікі, бо ён яшчэ, аказваецца, і грамадзянін Расіі, і мае кватэру за паўтара мільёна долараў у самой Маскве.

Крымінальныя справы супраць намеснікаў старшынь Магілёўскага і Бялыніцкага райвыканкамаў (Арцёмчыка і Ярашэнкі), генеральных дырэктараў"Магілёўдрэва", "Фандока" і "Крычаўцэменташыфера" (Усава, Майкава і Скоцкага), цэлай групоўкі раскрадальнікаў сродкаў Крычаўскага райспажыўсаюза гавораць аб нейкай эпідэміі крадзяжоў сярод кіраўнікоў "вертыкалі" і дзяржпрадпрыемстваў.У Магілёўскай вобласці таксама ўзбуджана 10 крымінальных спраў у адносінах да дэпутатаў мясцовых Саветаў 26-га і 27-га скліканняў. Пры гэтым складваецца ўражанне непазбежнасці пакарання за ўчыненне злачынстваў, што працуе на аўтарытэт улады і праваахоўных органаў, маўляў, недатыкальных у краіне няма.

Ды ці ўсё так добра ў барацьбе з карупцыяй на мясцовым узроўні, паспрабуем разабрацца. Усяго за 8 месяцаў гэтага года ў Магілёўскай вобласці ўзбуджана 146 карупцыйных спраў, арыштавана маёмасці на 2 мільярды рублёў – неблагі вынік на рэспубліканскім узроўні. У той жа час, толькі ў Шклоўскім раёне за першае паўгоддзе матэрыяльныя страты па карупцыйных справах склалі 2,1 млрд. руб., з якіх дабраахвотна вернута дзяржаве толькі 35,6 млн. руб. (1,7%), накладзены арышт на маёмасць абвінавачваных на 380 млн. руб. (18,1%). Ці ж гэта паказчыкі эфектыўнасці працы ў барацьбе з крыміналам?

Па-ранейшаму, першае месца па карумпаванасці ў вобласці займае сістэма аховы здароўя, на другім ідзе прамысловасць, далей з вялікім адрывам ідуць сельская гаспадарка, будаўніцтва і гандаль. Але ж, калі

*(Працяг на стар. 5)*

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ



*(Працяг. Пач. на стар. 4)*

урачы бяруць хабар на ўзроўні 20-30 долараў, а ў турму ідуць максімум за нейкія там 300-500 долараў ЗША, то у будаўнікоў і гандляроў гэтыя сумы выклікаюць ці не ўсмешку: у круглянскай ПМК-266 адзін з кіраўнікоў прысабечыў 206 млн. руб., у Крычаве гандляры скралі мільярд руб., у Бабруйску пры правядзенні дзяржаўных закупак мясцовая службовая асоба стала багацей на 100 млн. руб. Дарэчы, мы пакуль не чулі аб судовых працэсах над кіраўнікамі сістэмы аховы здароўя і адукацыі за велічэзныя адкаты, якія бяруцца за прыдбанне медыцынскага і навучальнага абсталявання, і правядзенне капітальнага рамонта будынкаў.

Чаму ж крадуць чыноўнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў ва ўмовах нарошчвання напалу барацьбы з карупцыяй? Міністр унутраных спраў І. Шуневіч лічыць, што ўся справа ва ўмовах, у якіх зараджаецца карупцыя. І дзе ж яна зараджаецца? Возьмем будаўніцтва – у 2013 г. КДК Магілёўскай вобласці прадухіліў завышэнне кошту будаўніцтва 101 аб'екта, фінансуемага з бюджэта на агульную суму 16,7 млрд. руб. Яшчэ 20,5 млрд. руб. “знайшлі” на будаўніцтве аб'ектаў дзяржпраграм. Не лепш справы ў ЖКГ вобласці: толькі прадухіленне аднясення на выдаткі звышнарматыўных страт у цеплавых сетках зберагло 3,7 млрд. руб. У АПК вобласці на закладцы пладоваягадных насаджэнняў неэфектыўна выкарыстаны 42 млрд. бюджэтных рублёў.

Галоўная ўмова для карупцыі, якая “аб'ядноўвае” розныя галіны эканомікі, адна – гэта дзяржаўная маёмасць, якую абслугоўваюць розныя кіруючыя ўстановы і незлічоныя безадказныя асобы. Для гэтай звязкі лішнімі з'яўляюцца дэмакратыя, незалежныя суды, недзяржаўныя СМІ і грамадскія аб'яднанні.

Зараз Беларусі патрэбны рэальна дзеючыя законы па барацьбе з карупцыяй. А то, што ж гэта атрымліваецца – сёння чыноўнік пры пасадзе, раскрадае народную маёмасць, затрымліваецца праваахоўнікамі, піша прашэнне аб памілаванні Прэзідэнту, а потым атрымлівае неблагую пенсію. Характэрная асаблівасць для Беларусі – раскрадальнікі дзяржаўных грошай шукаюць паратунку ў галоўнага барацьбіта з карупцыяй! Фактычна ж створаны ўмовы для пазбягання злаўмыснікамі адказнасці за карупцыйныя ўчынкі.

Другая асаблівацць мясцовай практыкі барацьбы з карупцыяй – недавер гэтым самым барацьбітам з боку рэспубліканскіх улад. Напрыклад, у Шклове “мерапрыемства” па затрыманні намесніка старшыні райвыканкама праводзіў рэспубліканскі следчы камітэт. Дарэчы, справу да гэтага часу вядзе Мінск.

Яшчэ адна асаблівасць мясцовай карупцыі – кругавая парука мясцовых чыноўнікаў.Валаводзяць, круцяць справы гадамі, ды яшчэ прэзідэнта крайнім зробяць. Вось калі справа тычыцца праяўлення самастойнасці грамадзянамі, ці, не дай Бог, пападзе грамадзянін у лік апазіцыянераў – о, тады справы вырашаюцца хутка і вельмі прынцыпова.

Таксама асаблівасцю мясцовых карупцыйных спраў з'яўляецца вялікая разбежка ў памерах крадзяжоў. Калі чыноўнік “бярэ” мільярдамі (хабар, адкаты, “кватэрнае пытанне”, падарункі), то шэраговы зладзюган ці хабарнік здавальняецца невялічкімі сумамі. Смешна, напрыклад, чытаць гнеўныя артыкулы аб хабары ўрачоў ў 20 даляраў за выдачу лістка непрацаздольнасці, хаця якраз хабарніцтвам шэраговых урачоў, працуючых у бальніцах, вельмі занепакоены беларусы. Тым не менш, выстаўляючы на паказ вынікі барацьбы з нячэснымі ўрачамі ды выкладчыкамі ВНУ, сапраўдныя маштабы карупцыі мясцовыя ўлады стараюцца не афішыраваць – парушаецца вера ў святасць “вертыкальшчыкаў”. Дарэчы, беларускі народ усё роўна не вельмі верыць у альтруізм і іншыя высакародныя намеры айчынных рупліўцаў-“прыкарытнікаў”.

Наступная асаблівасць – кругазварот былых асуджаных у “вертыкалі”. Па-добраму, дык з беларускіхуладных структур трэба вычышчаць уплывовых асоб с дзелавымі інтэрэсамі, патрабуючых злоужывання паўнамоцтвамі. Ды дзе там: не паспелі ў Шклове схлынуць жарсці па затрыманню намесніка старшыні райвыканкама за злоўжыванні на пасадзе, як зноў інфармацыйны бум – на яго месца прызначылі раней асуджанага былога старшыню райсавета М. Паўловіча (!). І дзе тут роля спадара Г. Лаўранкова, галоўнага прэзідэнцкага кантралёра па Магілёўскай

*(Працяг на стар. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

*(Працяг. Пач. на стар. 4, 5)*

вобласці, бо кадравыя перастаноўкі ўваходзяць у кола яго абавязкаў. Ці ўлада ўжо зусім меру згубіла ў гульнях з карупцыйнымі складнікамі? А можа гэтай уладзе некалі займацца карупцыяй і яна займаецца эканомікай? Ды не, бо зусім нядаўна той жа спадар Лаўранкоў на пасед-жанні аблвыканкама прызнаў, што эканамічная сітуацыя ў Магілёўскім рэгіёне пагаршаецца і неабходны аператыўныя меры па яе выпраўленню.




Іншы прыклад: нядаўна Беларусь наведала прадстаўніца Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч. Пакуль Дуня распіналась перад міністам замежных спраў У. Макеем і міністрам інфармацыі Л. Ананіч аб нейкім прагрэсе ў Беларусі ў справе затрыманняў журналістаў, у Магілеве рабілі ператрус у кватэры вядомага журналіста А. Буракова. Не, не пасадзілі пакуль, але ўламілі добры штраф за тое, што калі-нікалі гаварыў праўду пра гэтую ўладу за мяжу. Як гаворыцца, адчуйце розніцу паміж падзеямі. Адзін змагаецца за справядлівасць і караецца, другі, былы асуджаны, мяняе ў прынцыпе будучага асуджанага ва ўладнай структуры. І гэта не цырк на дроце – гэта рэчаіснасць, ад якой хутка будзе плакаць уся Беларусь.

Дарэчы, у Бялынічах 14 жніўня адбыўся дзень рэдактара для кіраўнікоў рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі вобласці. Прысутныя "акулы пяра" абмеркавалі сучасныя падыходы ў развіцці мясцовых СМІ, наведалі мадэрнізаваны малочнатаварны комплекс, дамовіліся пісаць пра набалелае. Прайшло 2 месяцы – ніводнага матэрыяла ў раённых газетах аб ходзе барацьбы з карупцыяй па сваёй ініцыятыве мясцовыя журналісты так і не нарадзілі, крытычных матэрыялаў пра стан сельскай гаспадаркі мы не ўбачылі, пра набалелае таксама чамусьці не напісалі.

Рыба гніе з галавы…Не, я зараз не пра мінскіх кіраўнікоў, бо тыя ў большасці недасягальныя для праваахоўнікаў. Мова пойдзе пра раённую "галаву", якая ні за што карупцыйнае не адказвае, бо паперы падпісваюць падначаленыя, але пад чуткім кіраўніцтвам мясцовай "вершаліны" улады. Вядома, што буйныя інвестары сустракаюцца у першую чаргу са старшынёй райвыканкама, прыёмку аб'ектаў робіць таксама ён, лагічна, што і ўсе прыемныя наступствы ад плённай супрацы з атрымальнікамі бонусаў выпадаюць таксама на яго долю. Карацей, у раёне больш усіх красці павінен "галава", а ў ніжэйшых па рангу падначаленых і "прыбыткі" суадносныя. Але чамусьці старшынь райвыканкамаў у нашай вобласці даўно ўжо не затрымлівалі за хабары, ды і ці ёсць надзея, наогул, што мясцовыя праваахоўнікі замахнуцца ў сваёй барацьбе з карупцыяй на раённую вяршаліну злашчаснай праблемы? Мабыць, не, бо гэту "вершаліну" прызначыў на "кармленне" сам прэзідэнт і распісвацца ў памылковым дзеянні "вертыкалі" у дзяржаўнай справе не да твару. Ды і ці не ведалі адпаведныя структуры пра свавольствы "вершаліны" на ранейшым месцы працы? Ведалі, але нікому не сказалі. Вось так і перакачавала на шклоўскую зямлю заганная практыка падстаўляць сваіх падначаленых у карупцыйных справах. Прэзідэнту не пашкодзіла б рассекчы шклоўскі карупцыйны вузел і адправіць галоўнага мах-ляра за краты, бо"шасцёркі", якія трапілі на лаву падсудных ды хуценька вярнуліся да дому, толькі азлабляюць мясцовае насельніцтва.

Але найперш патрабуюцца змены на ўзроўні дзяржавы – без дэмакратыі гідру карупцыі не задушыць, а з тым і не падняць на больш высокі ўзровень дабрабыт беларусаў. Як прыклад: рост ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупніцкай здольнасці) ў нашай дэмакратычнай суседкі Літвы вырас з 12 968 долараў ЗША у 2004 г. да 23 399 дол. ЗША у 2012 г., у яшчэ адной краіне Еўразвязу Польшчы – з 13 009 да 22 162, а ў Беларусі – з 7 589 да 15 592. Пры гэтым, Літва і Польшча не з'яўляюцца часткай еўразоны, так што ў іх яшчэ большыя перспектывы развіцця. А розніца паміж краінамі-суседкамі толькі ў розных адносінах да дэмакратыі. Паказальна, што Беларусь у свеце займае 123 месца па ўзроўню карумпаванасці, на дзесяткі месцаў "апярэдзіўшы" Літву і Польшчу. Адзначым, што ў 2002 годзе Беларусь знаходзілась на 36 месцы.

Возьмем другую суседку, перад якой чыноўнікі на цырлах ходзяць ужо 20 гадоў, Расію. Найбольшы рост у Расіі фіксуецца ці не сярод алігархаў, але, колькасць мільярдэраў так і не перарасла ў якасць эканомікі. Найвялікшае дасягненне Расіі зафіксавана яшчэ на мяжы 1900-х гадоў, калі яна перагнала Захад. Але тады былі для гэтага перадумовы: спрыяльны для бізнеса інвестыцыйны і падатковы рэжым, незалежны суд (адносна, вядома), абарона праў маёмасці, ды і з палітычнымі свабодамі было лепей, чым зараз. Затое зараз Расія ніжэй за Беларусь у рэйтынгу карупцыйнасці на 4 месцы.

Пры чым дэмакратыя да эканомікі? Прафесар цэнтра палітычных даследаванняў Мічыганскага ўніверсітэта Рональд Інглхарт, які займаецца маніторынгам амаль ста краін, упэўнены, што толькі прыярытэт закона

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4-6)*

стымулюе мадэрнізацыю, толькі ў дэмакратычнай краіне гарантавана абарона праў уласніка і інвестара. Прымерце гэта да беларускай рэчаіснасці.

Ёсць пытанні і ў другім рэчышчы – чаго так чапляюцца чыноўнікі за дзяржмаёмасць? Адказ на паверхні – пакуль будзе дзяржмаёмасць, будзе і карупцыя. Але не ўсё так проста на Беларусі. Інсайдары сістэмы дзяржкіравання ўпэўненыя, што ўсё ў Беларусі даўно падзелена. Пры тым, гэта зроблена акуратней, разумней і з большай надзейнасцю прававой аховы для рэальных бенефіцыяраў, чым, напрыклад, у Расіі. Вось чаму цяперашняй уладзе патрэбны свае людзі на ключавых пасадах, незалежна ад узроўню сумлення ці прафесійных якасцяў.

У Беларусі казначэйская сістэма выканання бюджэта па даходах і выдатках (упраўленне дзяржаўнага казначэйства ўвайшло ў склад Галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці), якая павінна выключаць нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў. Але ж у апошнія гады ў Шклоўскім раёне бум на крадзяжы якраз бюджэтных сродкаў – сума толькі выяўленых фактаў вымяраецца 60 млрд. рублямі.

У мінулым годзе і ў першым паўгоддзі 2014 года кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне вярнула дзяржаве 12 млрд. рублёў. Зараз праз казначэйскую сістэму ў Магілёўскай вобласці фінансуецца 2 444 арганізацыі і ўстановы, ёй кантралюецца звыш 85 тысяч дамоўных абавязанняў атрымальнікаў бюджэтных сродкаў. Пры ўсёй звышнапружанасці працы кантралёраў паспрабуйце купіць аловак без дазволу – не атрымаецца, не прапусцяць. Але як жа тады было дазволена сродкі на суму ў 4,2 мільёна еўра на пакупку нецеляў праз Шклоўскае ўпраўленне сельскай гаспадаркі запусціць праз пасрэднікаў, дзе тыя грошы і сканалі? Не ўсё чэсна, выходзіць, і ў гэтай сістэме. Ды каб жа гэта быў адзіны выпадак. Паволі ў Шклове забываюцца мінулагоднія карупцыйныя выкрунтасы – пазбег пакарання чарговы свавольнік с жылкамунгасу, які прысабечыў амаль паўмільярда рублёў, так і не дакапаліся, куды знікла станцыя сартыроўкі бытавых адыходаў, на якую з абласнога бюджэту яшчэ ў 2005 годзе патрацілі 40 млн. рублёў. Дарэчы, у сістэме ЖКГ РБ неправамерна патрацілі ў мінулым гаду 1 трыльён рублёў – а гэта дзесятая частка кошту ўсіх паслуг ЖКГ. Карацей, дзе ні капні, усюды пагаспадарыла касматая рука чыноўніка.

Усё часцей побач з чыноўнікамі Шклоўскага райвыканкама мы бачым святара мясцовай Спаса-Прэабражэнскай царквы, пакуль, праўда, без кадзіла. Можа гэта і ёсць шклоўскі асаблівы шлях у барацьбе з нячысцікамі з "вертыкалі"?! Дапамажы нам Бог, калі няма сумлення ў чыноўнікаў ад прыроды.

***Пётр Мігурскі***

# І ХТО Ж У НАС УТРЫМАНЦЫ І ДАРМАЕДЫ???

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

Так, згодна дакладу міжнароднай неўрадавай арганізацыі Transparency International, менавіта ў 2011 годзе карупцыя ў Беларусі імкліва расквітнела, і нашая краіна па гэтых паказчыках толькі за адзін год скацілася са 127-га на 143-е месца ў свеце, падзяляючы яго з Азербайджанам, Расіяй, Угандай і Нігерыяй.

Пагоршыўся на 0,1 і індэкс успрыняцця карупцыі, які склаў 2,4 супраць 2,5 у 2010 г.

Различваемы індэкс успрыняцця карупцыі вызначае ўзровень карупцыі ў дзяржсектары — ад 0 (самы высокі ўзровень карупцыі) да 10 (карумпаваных чыноўнікаў амаль няма).

Найлепшыя паказчыкі ў свеце па памерах індэкса маюць Новая Зеландыя (9,5), Данія (9,4), Фінляндыя (9,4).Самы высокі ўзровень карупцыі ў Самалі (1,0) і Паўночнай Карэі (1,0).

Нягледзечы на, здаецца, самыя рашучыя меры ў барацьбе з карупцыяй, зрухаў да лепшага ў нашай краіне не адбылося, і за апошнія гады




крупцыйныя паказчыкі яшчэ пагоршыліся.

Дык хто ж у нашай краіне з'яўляецца ўтрыманцамі і дармаедамі?

Тыя, што прысмакталіся як піяўкі да агульнанацыянальных багаццяў і п'юць непамерна народную кроў, або тыя, хто дзеля забяспячэння прыстойнага жыцця сваім сем'ям вымушаны з'ехаць на заробкі за межы краіны ???

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

# БЕЛЫНИЧИ КРИМИНАЛЬНЫЕ

21 октября Белыничским РО СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 2 УК (Грабёж) по заявлению, поступившему от неработающего жителя д. Рогач Белыничского р-на, 1989 г.р., о том, что 19 октября из его дома неизвестный открыто, с применением насилия, похитил ноутбук. ОУР установлено, что преступление совершил неработающий, ранее судимый за совершение кражи житель г.п. Белыничи, 1987 г.р. Задержан в административном порядке.

24 октября Белыничским РО СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 1 УК (Грабёж) в отношении жителя а.г. Вишов Белыничского района, 1967 г.р., который 23 октября на улице в указанном агрогородке открыто похитил мобильный телефон у местной жительницы, 1999 г.р. Похищенное изъято. Раскрыто ОУР. Задержан в порядке ст. 108 УПК.

24 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающего жителя д. Стехов, 1983 г.р., который 15 октября в г.п. Белыничи по ул. Энгельса, находясь в доме знакомого, 1974 г.р., похитил 1 млн. руб.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СУД ПА ПАЗОВЕ ІДЭОЛАГА ДА ГАЗЕТЫ “ВОЛЬНЫ ГОРАД” ПРАЦЯГНЕЦЦА 24 ЛІСТАПАДА

***22 кастрычніка ў судзе Крычаўскага раёна пачаўся разгляд пазова аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Крычаўскага райвыканкама Марыны Максімавай да газеты “Вольны горад”, яе рэдактара Сяргея Няроўнага і выдаўца газеты Уладзіміра Кудраўцава.***

Разглядае пазоў суддзя Алена Азаранка, якая і вяла судовае пасяджэнне. На пасяджэдні 22 кастрычніка прысутнічала пазоўніца Марына Максімава, адказчыкі Сяргей Няроўны і Уладзімір Кудраўцаў, а таксама памочнік пракурора Крычаўскага раёна Салтыкова.

Па словах рэдактара газеты “Вольны горад” Сяргея Няроўнага, пасяджэнне працягвалася крыху больш за гадзіну. Пазоўніца пацвердзіла свой пазоў і паведаміла суду, што з-за змешчанага на інтэрнэт-сайце газеты “Вольны горад” артыкула “Не ў сваім крэсле?” яна не можа нармальна спаць, у яе падвысіўся ціск і яна схуднела на 4 кілаграмы. Журналісты “Вольнага горада” сваёй віны не прызналі і сцвярджалі, што ў артыкуле “Не ў сваім крэсле?” яны не мелі на мэце нікога абразіць, а падымалі вострую тэму замоўчвання ўладамі Крычаўскага раёна і дзяржаўнай раёнкай “Крычаўскае жыццё” інфармацыі пра наступствы абвалу будынку актавага зала і сталовай мясцовай гімназіі, і інфармавання насельніцтва аб дзеяннях уладаў па вырашэнню ўзнікшых для школьнікаў і іх бацькоў праблемаў.

Сяргей Няроўны заявіў у судзе хадайніцтва, каб да наступнага паседжання ў суд было прадастаўлена копія Палажэння аб аддзеле ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Крычаўскага райвыканкама, рэгламент яго працы, каб можна было ўбачыць, якія задачы выконвае гэты аддзел і што ўваходзіць у службовыя абавязкі яго начальніка. Суддзя задаволіла хадайніцтва рэдактара “Вольнага горада”, хоць Марына Максімава выступала супраць, сцвярджаючы, што гэта інфармацыя не мае ніякіх адносін да яе пазова.

Суддзя Алена Азаранка прызначыла чарговае пасяджэнне, на якім будзе ажыццяўляцца больш дэталёвы разгляд справы, на 24 лістапада. Пачатак пасяджэння запланаваны на 14-30.




У сваім пазове Марына Максімава просіць суд Крычаўскага раёна абавязаць газету “Вольны горад” абвергнуць звесткі, якія ганьбяць яе гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю, а менавіта тое, што яна ў ідэалагічнай працы разбіраецца, як вядомая жывёла ў апельсінах, шляхам друку абвяргаючага артыкула. Таксама начальнік ідэалагічнага аддзела звяртаецца да суда з просьбай спагнаць з адказчыкаў здзейсненыя ёй маральныя страты ў памеры 10 000 000 рублёў і дзяржпошліну ў памеры 450 000 рублёў, якую яна аплаціла.

Падставай для падачы пазова стаў размешчаны 14 верасня 2014 года на інтэрнэт-сайце газеты “Вольны горад” артыкул “Не ў сваім крэсле?”. Аналагічны артыкул быў змешчаны таксама і ў друкаваным нумары выдання.

Дарэчы, Бялыніцкая СШ №1 пабудавана па праекце, аналагічнаму праекту будаўніцтва крычаўскай гімназіі, у якой напярэдадні новага навучальнага года абваліўся будынак актавага зала і школьнай сталовай.

***Барыс Вырвіч***

# А ШТО КАЗАЦЬ ПРА ГОРШЫХ…

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 2)*

статку буйной рагатай жывёлы; недастатковай – СВК “Ількавічы”, ААТ “Бялынічы”, райаграпрамтэхзабеспячэння па падрыхтоўцы ферм да зімова-стойлавага ўтрымання жывёлы”.

Застаецца адзначыць, што і ва ўсёй Магілёўскай вобласці сітуацыя не лепшая – па выніках дзевяці месяцаў 2014 года Магілёўская вобласць займае апошняе месца ў краіне. Асабліва трывожная сітуацыя складваецца з закладкай кармоў на зіму для жывёлагадоўлі. Рашэннем прэм’ер-міністра Міхаіла Мясніковіча створана адмысловая рабочая група на чале з віцэ-прэм’ерам Міхаілам Русым, якая будзе аналізаваць, што патрэбна зрабіць для выпраўлення сітуацыі ў Магілёўскай вобласці.

Аднак для нашага слаўнага старшыні аблвыканкама Пятра Рудніка галоўнае – гэта пералічыць усіх лайдакоў. Ну а пасля яны яму напрацуюць па поўнай праграме, падымуць паказчыкі… Заадно і нашым самым шматлікім у свеце міліцыянерам праца будзе, будуць іх адлоўліваць і прымушаць працаваць, а пасля выводзіць з запою і зноў адлоўліваць. Смех, ды і толькі…

***Іван Барысаў***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 05.11. 2014 г. у 15-00.